Гаючая флора

# Сасна

Была прымаўка: «У сасновым лесе маліцца, у бярозавым — весяліцца, у яловым — удавіцца». Прымаўка не падманвае: сасна больш гарманічна, чым усе астатнія дрэвы падсілкоўвае чалавека энергіяй. Радыус біяполя здаровага дрэва — 2-3 метры. Калі гуляеш у сасновым бары, цябе, як пяшчотна тонкі карунак, ахутвае жыватворная энергія сасны.

Тысячагоддзі людзі выкарыстоўвалі хвою, смалу (жывіцу), пупышкі і прадукты перапрацоўкі іх і самой драўніны. Выкарыстоўвалі іх як адхарквальны, дэзінфікуючы, мачагонны, жоўцегонны сродак, пры лячэнні бранхітаў, хранічных запаленняў лёгкіх, рэўматызму, падагры, мочакаменнай хваробы, халецыстыту, функцыянальных парушэннях нервовай і сардэчна-сасудзістай сістэм.

Гэта пяшчотнае дрэва каштоўна яшчэ і таму, што няма лепшага сродку для лячэння кальпіту і дысплазіі шыйкі маткі, чым ванначкі і спрынцаванне сасновымі пупышкамі.

**Рэцэпт:** 1 ст. л. пупышак дробна стаўчы, заліць шклянкай вару. У 2 разы разбавіць кіпячонай вадою пакаёвай тэмпературы і зрабіць спрынцаванне раніцай і вечарам. Нанач, праз дзень, паставіць тампон. Курс лячэння — 14 дзён.

Можна прыгатаваць сасновы мёд.

**Рэцэпт:** 1 частка маладых пупышак (шышак) заліць 2-ма часткамі халоднай кіпячонай вады. Давесці да кіпення, варыць 15 хвілін на павольным агні. Дадаць варанай вады да першапачатковага аб'ёму. Астудзіць. Дадаць 2 сталовыя лыжкі цукру, зноў давесці да кіпення. Піць па сталовай лыжцы 4-5 разоў за дзень.

Сасна цвіце ў траўні.

З лячэбнымі мэтамі ў навуковай і народнай медыцыне выкарыстоўваюцца сасновыя пупышкі, пылок, хвоя, смала (жывіца), прадукты перапрацоўкі з сасны: скіпінар, дзёгаць, каніфоль, драўнінны воцат.

Сасновыя пупышкі нарыхтоўваюць ранняй вясною ў перыяд набухання. Зразаюць сцізорыкам з бакавых галінак, сушаць у ценю ў добра праветрываемых памяшканнях.

Хвою можна збіраць у любы час года, але лепш за ўсё позняй восенню і зімой.

У навуковай медыцыне адвар пупышак сасны прымяняюць як адхарквальны, мачагонны, супрацьзапаленчы, кровасцьняючы і дэзінфікуючы сродак, для інгаляцый пры захворваннях верхніх дыхальных шляхоў, для ванн (50 г пупышак — на вядро вады).

Вітамінны настой для пiцця можна прыгатаваць з хвоі: свежую хвою прамыць халоднай вадой, дробна настрыгчы нажніцамі (4 шклянкі), заліць 2,5 шклянкамі халоднай вады, дадаць 2 ч. лыжкі разведзенай салянай кіслаты і паставіць у цёмным месцы на 2-3 дні. Затым працадзіць і піць на 1 шклянцы ў дзень.

Пры расстройствах нервовай і сардэчна-сасудзістай сістэм рабіць ванны з хвойнага экстракту.

У народнай медыцыне свежыя зялёныя сасновыя шышкі ў выглядзе 10%-най настойкі (1/3 літровага шкляннога слоіка запаўняюць здробненымі шышкамі, заліваюць 40% спіртам-гарэлкай, настойваюць 7 дзён у цёмным месцы, ужываюць па 1 ст. л. 3 разы ў дзень да яды на працягу 1-2 месяцаў) прымяняюць пры гіперацыдных гастрытах і язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі. Адвар ці настой пупышак і хвоі прымяняюць для ванн, а таксама ўнутр пры ацёках, хранічных бранхітах і трахеітах.

Пры радыкуліце на хворыя месцы кладуць свежае распаранае пілавінне. Настой хвоі сасны (свежазрэзаныя пабегі кладуць у кадку, заліваюць варам у суадносінах 1:1 і накрываюць мешкавінай ці накрыўкай), прымяняюць на наступны дзень, развёўшы з вадою ў суадносінах 1:5, супраць ябланевай пладажоркі, агрэставай і парэчкавай агнёўкі.

З народнага лячэбніка

## Незаменны сродак ад схуднення, малакроўя і пачатковай стадыі сухотаў

Узяць 1 фунт нутранога свіного сала (лой), 6 вялікіх зялёных яблыкаў. Скрукy з яблык не здымаць, а парэзаць яблыкі на кавалачкі, як і сала. Перамяшаць кавалачкі сала і яблыкаў, тапіць сумесь у духоўцы на слабым агню, каб не перагарала. Затым узяць 12 яечных жаўткоў і расцерці іх дабяла з 1 шклянкай цукру. Туды ж дадаць і фунт здробненага на драчцы шакаладу.

Працадзіць праз сіта сала з яблыкамі і змяшаць працэджанае з сумессю цукру, жаўткоў і шакаладу. Даць сумесі астудзіцца. Атрыманы прадукт намазваюць на хлеб, ужываючы яго з ядою тры-чатыры разы ў дзень і абавязкова запіваць цёплым, амаль гарачым малаком.

Пры карыстанні гэтым сродкам, хворы прыбаўляе ў вазе ад 2 да 5 фунтаў за тыдзень. Амаль усе лекары народнай медыцыны стагоддзямі карысталіся гэтым сродкам і заўсёды з поспехам.

## Поздравляем

с днем рождения!
**КОРЕНЬКОВУ**
**Елену Владимировну,**
дорогую невесточку

Желаем счастья, здоровья, благополучия во всем.
*Не склоняйся рябиной, если даже беда,*
*Будь все время счастливой в этот день и всегда!*

**Томчик Владимир и Фрося,**
**д. Корытное, Осиповичский р-н.**

Народныя замовы

## Ад скабкі

«Кароўка-муроўка, дай малачка, а рабу Божаму (такомусь) (у вока, у галаву), выдзь парашок на худы гаршчок, гаршчок да верху, парашок да нізу».

*Словы ў скобках — гэта месца знаходжання скабкі. Напрыклад, калі скабка ва ўказальным пальцы правай рукі, то замест гэтага радка замаўляйце: «Ва ўказальны палец, у правую руку».*

## Ад улёку (спужання)

Узяць кавалачак хлеба і вадзіць ім над галавою па гадзіннікавай стрэлцы, прымаўляючы: «Усё было ў рабу Божым (такімсьці), зглыньце: з кашчэй, з машчэй, з буйной галовушкі, з мозгу, з вочка, з вушак, з носіка, з сардэчка, з пупка, з кішочак, з ручак, з ножак, з пятачак, усе болі, усе пакуты, пужанне, згіньце, а раба Божага (такогась) астаўце ў супакоі. Амін, Амін, Амін!»

*Чытаць тры разы, а потым скарміць хлеб (прычым гэта павінен зрабіць сам хворы) сабачку ці птушкам. Лячыць тры дні.*

Куток гаспадыні

## Цыбульная вячэра
**(французская кухня)**

Дробна накрышыць цыбулю, дадаць надраны на драчцы кісласалодкі яблык, размяць відэльцам варанае яйка. І салата гатовая. Дзенне салаты парадуе мужа з жонкаю ў перыяд «восені» жыцця.

## Варэнне з морквы

*На 1 кг морквы — 1 кг цукру і 300 мл вады.*

Моркву нарэзаць невялікімі кружочкамі. Зварыць да мяккасці. Астудзіць. Заліць сіропам і варыць яшчэ 5 хвілін. Праз 8 гадзін зноў давесці да кіпення. Дадаць яшчэ 200 г цукру і ўварыць да загусцення сіропу. За 2-3 хвіліны да заканчэння варкі дадаць чайную лыжку лімоннай кіслаты ці лімон. Калі варэнне астыне, дадаць ванільны цукар.

## Бурачнае жэле

*4 буракі, 4 шклянкі вады, 2 ст. л. цукру, 4 ч. л. жэлаціну.*

Бурачны напой, прыгатаваны, як апісана было ў «Кутку гаспадыні» ў нашай газеце N 37 за 18 кастрычніка г.г., давесці да кіпення, дадаць папярэдне замочаны жалацін, размяшаць да поўнага яго растварэння, разліць у формачкі і астудзіць.

## Мокка-фліп

Добра змяшаць: 1 кубачак халоднай кавы, 1 сыры яйкавы жаўток, 1 ст. лыжку цукру. Дапоўніць шклянку халодным малаком. І піце на здароўе.

## Шакаладны пунш

Змяшаць 1 л гарачай какавы (50% вады і 50% малака) і 0,25 л каньяку. Падаць вельмі гарачым або вельмі халодным. Гарнір — міндаль.

Вольнай часінай

## Рэдкае патомства

25 красавіка 1964 г. было паведамленне, што ў Магілёве (БССР) карова па мянушцы Любік нарадзіла 7 цялятак. Рэкордная ж пладавітасць — 39 цялят, народжаных ад адной каровы, — зарэгістравана ў каровы дрэмонскай пароды па мянушцы Вялікая Берта, якая належала Джэрому О'Ліры з Блэкуотэрсбрыджа графства Кэрры (Ірландыя).

Бык чорна-стракатай дацкай пароды па мянушцы Соэндэр Джыллэндз Джэнс аставіў пасля сябе 220 тысяч адзінак прыплоду, якія выжылі пасля штучнага асемянення. Ён быў забіты ў верасні 1978 г. у Капенгагене ва ўзросце 11 год. Бык фрызскай пароды па мянушцы Бендолле Адэма памёр ва ўзросце 14 год у Клондалкіне, графства Дублін (Ірландыя). У выніку штучнага асемянення ад яго нарадзіліся 212 тысяч цялятак.

## Банан ад нявесты

У паўднёва-заходняй частцы Кітая пражывае народнасць чжуан. Традыцыйны абрад сватаўства тут патрабуе ад жаніха паслаць сваёй выбранніцы касынку. У адказ яна павінна вярнуць яму звязаныя ёю хатнія пантофлі. Далучаная да іх звязка бананаў азначае згоду на вяселле. Калі ж у падарунак у адказ укладзены пер'я зялёнай цыбулі, то гэта азначае катэгарычны адказ.

## Кажуць, што...

У Бразіліі страта нявіннасці да вяселля больш не будзе служыць законнай падставай для разводу. Акрамя таго, разведзеныя па прычыне сямейнай здрады цяпер змогуць паўторна стварыць ячэйку бразільскага грамадства, якую, да таго ж, можна наогул не рэгістраваць афіцыйна.

Гэта толькі частка зменненняў, якія былі ўнесены ў Грамадзянскі кодэкс лаціна-амерыканскай краіны яе кангрэсам (парламентам). Традыцыйныя строгія каталіцкія нормы ўступілі месца больш прагрэсіўным і дэмакратычным. Апошні раз кодэкс мяняўся яшчэ ў 1916 годзе, але з таго часу кансерватыўнае бразільскае грамадства зрабіла даволі вялікі крок на шляху сацыяльнага прагрэсу. Каб прыняць папраўкі, спатрэбілася 26 гадоў дыскусій, бо кодэкс уключае ў сябе больш як дзве тысячы артыкулаў.

Народныя прыкметы

## Вясельныя

Калі дзеўка навівае пачатак туга і моцна, то добра будзе жыць з мужам.

Калі ў дзеўкі часта падол мокры ці ў гразі, то муж будзе п'яніца.

Кінуць камень у ваду: калі забурчыць, то муж будзе буркатлівы.

## Пахавальныя

У пакоі, дзе ляжыць нябожчык, не падмятаюць, пакуль яго не вынясуць.

Калі дамавіна ня ў меру вялікая — быць яшчэ нябожчыку ў доме.

Нябожчык глядзіць адным вокам — выглядвае другога.

Кідаць жменю зямлі ў магілу, каб не баяцца нябожчыка.

Каб не залішне тужыць па нябожчыку, націраецца насупраць сэрца зямлёю з магілы.

## Да шчасця

Мурашка ў хаце — да шчасця.

Коні ржуць — да дабра.

Хто незнарок пабачыць святло у сваёй хаце, чакай шчасця.

Кошка да чалавека цягнецца — да абновы.

Парады агародніку

## Шкатулка для насення

Вельмі зручная для захоўвання насення шкатулка-блок, зробленая са склееных паміж сабою двух-трох дзесяткаў карабкоў ад запалак. На тарцах скрыначак, што высоўваюцца, лёгка напісаць дату, найменне культуры і яе гатунак.

Калі захоўваеш насенне ў пакецiках ці ў мяшочках, часцяком не памятаеш, дзе, што і з якога часу захоўваецца. Шкатулка ж значна спрашчае справу. Надыходзіць пара рыхтаваць насенне да пасеву — вымаеш з блока скрыначку з патрэбным гатункам, устаўляеш яе ў другі футляр і адпраўляешся на лецішча (калі ты гараджанін), ці на агарод, які побач з домам (калі ты вяскоўвец), з поўнай упэўненасцю, што не пераблытаў насенне.

**Н.КАЛІНІНА.**



**Добры дзень, чытачы клуба знаёмстваў! Клуб рады вітаць новых абанентаў і тых, хто жадае з імі пазнаёміцца. Чытайце, знаёмцеся, рабіце свой выбар і... шчаслівай вам сустрэчы!**

**Абанент N 26**

**НАТАША.** 36 год. Рост — 164 см, вага — 54 кг. Работай і жыллём забяспечана. Для сур'ёзных адносін пазнаёмлюся з прыстойным, непітушчым мужчынам, матэрыяльна забяспечаным. г. Мінск, тэл. 258-05-20.

**Абанент N 27**

Без кахання няма сэнсу жыць. Хачу кахаць і быць каханай. Мару аб сэрцы, здольным сагрэць мяне цеплынёй. Хочаце ведаць мой характар? Пачытайце гараскоп Дзевы. Там усё пра мяне сказана. Мне ўжо за 40. Ёсць дачка 15 год.

Судзімых і пітушчых прашу мяне не турбаваць. Пісаць па адрасе: 220114, г. Мінск, а/я 526.

## БЕЛАРУСКІ ЎСХОД

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі: 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в. Маркаўка**

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**Тэлефон для даведак 22-9-89 у Хоцімску.**


*"Беларускі Ўсход"*

Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.
На беларускай і рускай мовах.
***Заснавальнік*** — рэдакцыя газеты «Беларускі Ўсход».

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ**

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670.
Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89

**Рэгістрацыйны N 141**
Падпісны індэкс — 64098

*Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.*
*За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.*

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 5 снежня 2001 г.
Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.
**Наклад 1432 ас.** Аб'ём І друк. аркуш. **Заказ № 44.**